# КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 12 (173), 22 САКАВІКА 1995 ГОДА. КОШТ 200 РУБЛЁЎ



НА ШЛЯХУ ДА ДЗЯРЖАЎНАСЦІ • стар. 2

ТАК МАЛА НАМ ТРЭБА... • стар. 3

МУЗЫКА СТРАЧАНАГА КАРАЛЕЎСТВА • стар. 5

ТЭАТР РЭЧАЎ ЭПОХІ БАЛЬШАВІЗМУ • стар. 6


Алег ТРУСАЎ, кандыдат гістарычных навук, дэпутат ВС Рэспублікі Беларусь

# НАТАТКІ З НАГОДЫ

## НА БЕЛАРУСІ — БЕЛАРУСКІ ЧАС

На мінулым тыдні беларускай Канстытуцыі споўніўся год. Што і казаць, гэта вельмі невялікі адрэзак часу і рана з гэтай нагоды пляскаць у ладкі. Але за 15-м сакавіка хутка надыдзе і 25-га.

Дзень Волі... Сакавіцкі дзень волі і незалежнасці Беларусі. Які ён далёкі ад нас. І які блізкі, асабліва зараз, калі мы ўжо чацвёрты год упарта крочым па шляху незалежнасці, вяртаемся ў Еўропу, з якой нас гвалтам выпіхнулі сувораўскімі штыхамі 200 гадоў таму. І вось мы вольныя. Мы прачнуліся ад шматгадовага сну, мы ведаем цяпер шлях да храма. І адбудуем яго — храм нашай тысячагадовай гісторыі, храм, імя якому Беларусь.

Яшчэ душаць беларускую явсну адраджэння народнай існасці прымаразкі шавінізму і невуцтва, чорнымі крумкачамі лётаюць вакол нас нядобразычліўцы, якім поперак горла стала нашая мова, гісторыя, культура і сімволіка, а першы на Беларусі прэзідэнт блытае Сапегу са Спінозай, але мы ўжо жывём не па маскоўскім, а па сваім уласным, беларускім часе.

І той сцяг, які чатыры дні горда лунаў на балконе дома першага беларускага ўрада ў лютым 1918 года, ужо ніколі не будзе растаптаны варожым ботам, бо мы ўжо — не тыя. Мы прачнуліся і жывём па мясцовым часе, які чатыры гады грукоча ў нашыя сэрцы і па кроплі выціскае з нас раба.

Упершыню за апошнія дзвесце гадоў мы перасталі быць гарматным мясам самай вялікай у свеце імперыі, самай магутнай і жорсткай турмы народаў у XX стагоддзі. І дзякаваць Богу, чачэнская вайна ўжо не нашая вайна, бо мы жывём па мясцовым часе і нашыя гадзіннікі паказваюць мір.

Чалавек, што галасаваў супраць Белавежскіх пагадненняў, у выніку якіх былі перакрэслены Брэст 1918-га і Рыга 1921 года, а таксама пакт Молатава-Рыбентропа, нядаўна ў Брусселі паставіў свой подпіс пад дакументамі, якія вяртаюць нас ва ўлонне еўрапейскай цывілізацыі. І гэта невыпадкова. Бо нельга двойчы ўвайсці ў адну і тую ж раку, бо на гістарычным гадзінніку пачалі адлічвацца першыя гады беларускай незалежнасці.

Таму і гучаць па нашым радыё добрыя, праніклівыя словы: на Беларусі — шэсць гадзін раніцы, на Беларусі — поўдзень...

На Беларусі — беларускі час.






## І Ў 18-м ЛУНАЎ НАШ СЦЯГ

Напярэдадні 25 Сакавіка хацелася б паведаміць чытачам "Культуры" аб цікавай знаходцы, якая пашырыць звесткі аб гісторыі нашага сцяга. Гэта, нам здаецца, вельмі дарэчы і ў сувязі з той кампаніяй, якую разгарнулі супраць нацыянальнай беларускай сімволікі камуністы, лібералы-жырыноўцы ды іншыя "казакі" і сабораўцы.

Адзін з галоўных сённяшніх аргументаў ідэолагаў камуністычнай прапаганды — гэта тэзіс, што БНР мела іншы ўзор бел-чырвона-белага сцяга, а той варыянт, які стаў 19 верасня 1991 года дзяржаўным сцягам, быццам распрацаваны пад кіраўніцтвам Кубэ ў ліпені 42-га. Падставаю для такіх сцвярджэнняў служыла адсутнасць графічных ці фатаграфічных выяў сцяга БНР, былі толькі яго слоўныя апісанні, без спасылак на ягоныя памеры ці прапорцыі.

І вось мы маем гістарычны дакумент. У канцы студзеня г.г. у складзе групы дэпутатаў Вярхоўнага Савета па запрашэнні Вестмінстэрскага фонду мне пашчасціла наведаць Лондан. Вядома, мы не маглі абмінуць асяродак культурнага жыцця брытанскіх беларусаў — бібліятэку імя Ф.Скарыны. У гэтым унікальным кнігазборы маю ўвагу прыцягнуў першы (і апошні) нумар часопіса "Варта". Ён выйшаў у Менску ў кастрычніку 1918 года. Часопіс быў двухмоўны (тэксты пададзены і на рускай, і на беларускай мовах). У рубрыцы пад назвай "Белорусская Народная Республика", на старонцы 33, і змешчаны унікальны здымак з выявай бел-чырвона-белага сцяга і подпісам наступнага зместу:

"Дни учреждения Народного Секретариата Белоруссии.

19, 20, 21, 22 февраля 1918 года перед домом Белорусской Рады (б. домом Губернатора). На балконе спущен белорусский национальный флаг".

І сапраўды, на здымку добра бачыцца бел-чырвона-белае палотнішча, прычым прыкладна ў тых прапорцыях, якія мае наш цяперашні дзяржаўны сцяг, зацверджаны Вярхоўным Саветам увосень 1991-га. Вось гэты сцяг (на здымку) і скінулі немцы, калі яны неўзабаве, паводле драпежнага Брэсцкага міру, увайшлі ў Менск. Аднак з 19 да 22 лютага ўлада ў Менску належала толькі БНР — і сцяг яе вольна лунаў у паветры...

Такім чынам, загадала доўга жыць яшчэ адна камуністычная "качка", якая была пушчана ў свет "навукоўцамі" ад ПКБ.

СЯРЭДЗІНА ТЫДНЯ

НАДЗВЫЧАЙНАЕ ЗДАРЭННЕ

## АБРАБАВАННЕ СТАГОДДЗЯ НЕ АДБЫЛОСЯ. ПАКУЛЬ?

***Уначы з мінулай пятніцы на суботу была здзейснена спроба абрабавання Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь. Няўдалай гэтая добра спланаваная акцыя аказалася толькі таму, што спрацаваў трэці пояс сігналізацыі.***

Распавядае дырэктар музея Юрый Аляксандравіч Карачун:

— Па сэнсе і па форме гэта — вельмі нахабнае жаданне авалодаць каштоўнасцямі музея. Паміж дзвюма і трыма гадзінамі ночы з пятніцы на суботу група рабаўнікоў (колькі іх было — ахова не ведае) пранікла з боку будоўлі, што вядзецца ў двары музея, дзе вырыты вялікі катлаван. Там, ля будынка музея ёсць запаснае выйсце, якое ніколі не адчыняецца, і пра яго мала хто з супрацоўнікаў ведае. Больш за тое, за падвойнымі дзвярыма гэтага выйсця, праз тамбур, абсталяваны кабінет майго намесніка па навуцы, а самі дзверы выйсця закрытыя дыванам. Ахоўная сігналізацыя ёсць на ўсіх дзвярах. Рабаўнікі выразалі дзвярное палатно трох дзвярэй на пяць сантыметраў ніжэй сігналізацыі, іншымі словамі, відавочна, ведалі добра, што і як зроблена. Працавалі ручной дрэллю і стамескамі. Ва ўтвораную шчыліну мог пралезці чалавек. Такім чынам, мінуўшы два паясы сгналізацыі, яны падабраліся да галоўнага пункту аховы, звязалі жанчыну-ахоўніцу, адняўшы ў яе пісталет. Яна бачыла двух чалавек у масках-панчохах. Але калі яны паспрабавалі падняцца на галерэю, спрацаваў трэці пояс сігналізацыі. Разумеючы, што ўжо праз тры хвіліны ў музей прыедзе па трывозе група АМАПа, рабаўнікі зніклі, кінуўшы ўсе свае прылады і не паспеўшы нічога скрасці. Трывожны начны званок падняў і следчых і супрацоўнікаў музея. Следства пачалося ў тую ж ноч.

Дырэктар мяркуе, што абрабаванне было замоўленым, што злодзеі ішлі з пэўнай мэтай.

Пытаюся ў Юрыя Аляксандравіча, ці не мала аховы для будынка, што ўтрымлівае бясцэнны збор, і ці не час абсталяваць памяшканне з нацыянальным багаццем найдасканалай электроннай ахоўнай сістэмай? На сваё пытанне чую сумны адказ: у музея ледзь-ледзь хапае сродкаў на ўтрыманне той аховы, што ўжо існуе.

— Міністэрства культуры і друку выдаткоўвае нам сродкі ў бягучым годзе толькі на зарплату, ацяпленне і святло. Але ж мы павінны рабіць самае галоўнае: набываць творы, захоўваць экспанаты, рэстаўраваць іх, весці навуковую працу, — працягвае свой аповяд Юрый Аляксандравіч. — Ды што тут казаць: трыццаць гадоў "прабівалі" мы права на прыбудову да музея, што засталася недаробленай яшчэ з 1957 года, калі быў здадзены асноўны будынак. Увесь гэты час мы ходзім да ўладаў з працягнутай рукой. І нават зараз, калі будоўля, нарэшце, пачалася, грошай увесь час не хапае. Толькі нядаўна мы разлічыліся з будаўнікамі за снежань. Мне падаецца, што высокія ўлады ў нашай краіне яшчэ нават не ўцямілі, які скарб мы маем. З гэтай нагоды я заўсёды бяру за прыклад Францыю, дзе, дзякуючы менавіта першым асобам краіны, адкрылі і Цэнтр Пампіду, і вызвалілі частку Луўра да яганага юбілею ад іншых устаноў... Паслы іншых дзяржаў свой першы візіт у Мінску робяць у Мастацкі музей. Чаму ж нашыя ўлады чакаюць запрашэння: паглядзіце, маўляў, што мы маем?!

Такім чынам, няўдалае абрабаванне дало магчымасць узгадаць пра праблемы галоўнага музея краіны. Іх рашэнне — за ўладамі.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛІНФАРМ**

## З ЮБІЛЕЕМ!



Вельмішаноўны Уладыка!

Мы віншуем Вас з 60-годдзем.

Сацыял-дэмакраты з павагай ставяцца да вернікаў усіх канфесій, у тым ліку і да самай пашыранай у нашай краіне ---- праваслаўя.

У гэты цяжкі час, калі народ Беларусі імкнецца да адраджэння глыбокіх духоўных традыцый, дазвольце выказаць Вам падзяку за дзейсны ўдзел у адбудове і ў васкрашэнні многіх занядбаных і знявечаных бальшавікамі помнікаў архітэктуры.

Сёння, калі паступова адраджаецца наша мова, мы разам з Вамі радуемся, як прыгожа гучыць яна пад старадаўнімі царкоўнымі скляпеннямі і купаламі.

Спадзяемся, што з набыццём сапраўднай дзяржаўнай незалежнасці настане росквіт Беларускай Праваслаўнай Царквы.

Жадаем Вам, шаноўны Уладыка, плёну, моцнага здароўя, душэўнага спакою, веры, надзеі і любові. Няхай кожнае слова Вашае западае ў душы чалавечыя і абуджае іх нястомна рабіць дабро.

Выканаўчы Камітэт
Цэнтральнай Рады Беларускай
Сацыял-Дэмакратычнай Грамады

•

Напярэдадні юбілею Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі, Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт указам прэзідэнта РБ быў узнагароджаны медалём Францішка Скарыны. Рэдакцыя газеты "Культура" далучаецца да юбілейных віншаванняў і зычыць Уладыку Філарэту ўсяго самага светлага на доўгія гады.

## МІНСК — МАСКВА — КЁЛЬН

У мінулую пятніцу, 17 сакавіка, у Маскве (Расія) адкрылася персанальная выстава вядомага беларускага графіка Уладзіміра Савіча. Гэта культурніцкая акцыя была б немагчымай без фінансавай і арганізацыйнай дапамогі нямецкага канцэрна "Сіменс АГ".

Летась таксама з дапамогаю "Сіменс АГ" ладзілася выстава шасці маладых беларускіх мастакоў у маскоўскім Цэнтральным Доме мастака, што на Крымскім вале.

Выстава У.Савіча праходзіць у цудоўным памяшканні Муніцыпальнай мастацкай галерэі. Дарэчы, і каталог, аператыўна выдадзены да адкрыцця экспазіцыі, таксама зроблены з дапамогай спонсара.

У бліжэйшы час прадстаўніцтва "Сіменс АГ" адкрыецца ў сталіцы Беларусі, і кіраўніцтва канцэрна руліцца, каб напачатку ў нашу краіну прыйшла добрая слава пра "Сіменс". Прыклад, варты для пераймання мецэнацтва нашымі прадпрымальнікамі (асабліва, калі браць да ўвагі цяжкі стан культуры на Беларусі).

Выстава У.Савіча ў асноўным складаецца з твораў, якія раней экспанаваліся ў Мінску. Пасля Масквы творы будуць паказаны ў Кёльне. Не выключана, што адтуль яны на радзіму не вернуцца. Бо ў нашай дзяржавы няма грошай, каб набыць хоць некалькі твораў гэтага ўжо добра вядомага майстра нават для калекцыі Нацыянальнага мастацкага музея. А мастаку, як і прадстаўнікам іншых прафесій, трэба на нешта жыць.

У.Савіч — мастак, які не спыняецца ў пошуку выразных сродкаў, які ўвесь час удасканальвае ўласную вобразна-выяўленчую сістэму. Цяпер у яго пераважае змешаная тэхніка. Кампазіцыям уласцівы метафарызм, вытанчанасць, шматсэнсавасць. Я параўнаў бы ягоныя графічныя аркушы са шматслойным насценным роспісам. Калі нечакана пад верхнім слоем адкрываецца больш ранні, а пад ім яшчэ ранейшы. Мабыць, так у лагічна абгрунтаваных учынках іншы раз прабіваецца падсвядомасць, адкрываючы невядомыя псіхалагічныя глыбіні. Шкада, калі гэтыя творы не вернуцца дадому...

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# НА ШЛЯХУ ДА ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

Каб дарма не траціць час на разважанні аб значэнні Беларускай Народнай Рэспублікі і не спыняцца на агульнавядомых фактах, звернемся да практычных дзеянняў Рады БНР і Народнага Сакратарыяту, скіраваных на рэалізацыю ідэі беларускай дзяржаўнасці. Стваральнікі БНР мелі канкрэтную праграму мерапрыемстваў, ажыццяўленнем якіх павінен быў займацца Народны Сакратарыят. Сярод намечаных планаў, як пазначана ў дакументах, "найвялікшую вагу маюць" наступныя:

1. Беларуская мова павінна заняць належнае ёй месца як мова дзяржаўная;

2. Развіццё беларускай культуры магчыма толькі з правядзеннем карэннай зямельнай рэформы на карысць сялянства;

3. Стварэнне ўласнай фінансавай сістэмы;

4. Планавае вяртанне на бацькаўшчыну ўцекачоў і забеспячэнне іх усім неабходным;

5. Аднавіць функцыі судовых інстытуцый;

6. Падняць народную асвету на грунце нацыянальнай культуры, збіраць і бараніць помнікі нацыянальнай творчасці.

Нягледзячы на неспрыяльныя ўмовы — умовы нямецкай акупацыі, Народны Сакратарыят і Рада БНР дамагліся пэўных поспехаў. Ужо ў красавіку 1918 года была прынята пастанова, паводле якой беларуская мова абвяшчалася абавязковай і дзяржаўнай мовай Беларускай Народнай Рэспубліцы. Ва Устаўных граматах Рада БНР абавязвалася перадаць зямлю бясплатна тым, хто яе апрацоўвае. Аднак правесці карэнную зямельную рэформу было немагчыма: немцы вярталі зямлю яе ранейшым уладальнікам — панам.

Важнай сферай дзейнасці Народнага Сакратарыяту з'яўляліся гаспадарчыя пытанні, у іх ліку і стварэнне ўласнай фінансавай сістэмы. У красавіку 1918 года на разгляд Рады БНР Язэп Варонка і Пётр Крэчэўскі прапанавалі пытанне аб выпуску беларускіх крэдытных білетаў, якія забяспечваліся коштам таварнага лесу.

З мэтаю вяртання ўцекачоў на бацькаўшчыну пры ўрадзе БНР была створана спецыяльная камісія. У жніўні 1918 года яна атрымала дазвол накіроўваць сваіх прадстаўнікоў у пункты, дзе знаходзілася вялікая колькасць уцекачоў: Баранавічы, Маладзечна, Гомель, Магілёў. У верасні таго ж года стварылася рээвакуацыйнае бюро ў Менску. Каля 50 тысяч чалавек, якія прытуліліся ў Менску, здолелі вярнуцца на радзіму — у Заходнюю Беларусь. У кастрычніку 1918 года праз Баранавічы ўцякацкая камісія вярнула да родных агменяў яшчэ 4 тысячы чалавек. Улетку ў сувязі з выдадзеным на Украіне Законам аб грамадзянстве ў Адэсе вялікая колькасць беларусаў-уцекачоў, а таксама былых ваеннаслужачых падалі заявы, што яны лічаць сябе грамадзянамі БНР. Беларускае консульства ў Адэсе на чале са Сцяпанам Некрашэвічам зарэгістравала каля 16 тысяч грамадзян-беларусаў і выдала ім пашпарты новага ўзору, бараніла іх палітычныя і маёмасныя правы. Дзеля рээвакуацыі ўцекачоў Радай БНР былі прызначаны ўпаўнаважаныя Аляксандр Вальковіч — на Паўночны Каўказ, Пётра Мінкоў — у Екацярынаслаў.




Аднавіць функцыі судовых інстытуцый, на жаль, не ўдалося — яны ажыццяўляліся нямецкай акупацыйнай адміністрацыяй.

Найбольшых поспехаў Рада БНР дасягнула ў галіне культурна-нацыянальнага адраджэння. Яе дзейнасць развівалася ў некалькіх накірунках. Найпершым клопатам, безумоўна, было станаўленне беларускага школьніцтва, тым болей, што пачатак ужо быў пакладзены. У 1918 годзе працавала каля 350 школ з беларускай мовай навучання. Адкрыццё новых тармазілася з-за адсутнасці падрыхтаваных кадраў, асабліва настаўнікаў: дзейнічала пакуль толькі адна Свіслацкая настаўніцкая семінарыя...

У красавіку 1918 года Народны Сакратарыят наладжвае курсы беларусазнаўства, на іх займалася каля двухсот чалавек. 1 ліпеня ўтвараюцца курсы для настаўнікаў у Бабруйску. 5 верасня з ініцыятывы Народнага Сакратарыяту адбылося аднгачасовае адкрыццё Беларускіх настаўніцкіх курсаў і курсаў беларусазнаўства для настаўнікаў гарадской пачатковай школы. Урадам БНР выдзяляліся сродкі на ўтрыманне беларускай гімназіі ў Будславе. Дзеля агульнага кіраўніцтва асветай ў канцы кастрычніка — пачатку лістапада пачынае дзейнічаць Акруга Народнай Асветы на чале з акадэмікам Яўхімам Карскім.

22 красавіка 1918 года па ініцыятыве М.А.Вярата ў Менску адчыняецца Вышэйшая музычная школа, у хуткім часе пераўтвораная паводле распараджэння Народнага Сакратарыяту ў Беларускую дзяржаўную кансерваторыю. У кансерваторыі існаваў аддзел па вывучэнні беларускай народнай песні, гісторыі беларускай культуры і беларускай харавой капэлы. Дырэктарам кансерваторыі стаў прафесар Г.С.Жураўлёў, выкладалі прафесар І.Э.Свідовіч, Усцюжанінаў, М.Э.Маўшовіч, М.Р.Шапіра, В.А.Андога.

28 красавіка 1918 года Народны Сакратарыят прыняў рэзалюцыю аб адкрыцці універсітэта, падрыхтоўчую работу распачала камісія на чале з вядомым вучоным, этнографам М.В.Доўнар-Запольскім. Увосень у Менску адчынілася каталіцкая духоўная семінарыя (рэктар — Фабіян Абрантовіч).

Хаця эканамічныя і палітычныя зарункі былі не надта добрыя, выдавецкая дзейнасць не спынялася. Выдавецтвы ў Вільні і ў Менску, напрыклад, выпусцілі тым часам каля 50 кніг.

Дзве камісіі Народнага Сакратарыяту асветы заняліся праглядам і падрыхтоўкай падручнікаў для беларускіх школ: адна займалася падручнікамі для сярэдніх, другая — для пачатковых школ. Было створана спецыяльнае Бюро па ўкладанні і перакладах падручнікаў на беларускую мову, якое тады ж падрыхтавала да друку 16 падручнікаў.

Для папулярызацыі беларускай нацыянальнай культуры наладжваліся выставы: гісторыка-этнаграфічная "Вільня — Менск" (май — ліпень 1918), "Выстаўка імя Ф.Скарыны" (жнівень 1918) і "Менская краёвая выстава" (верасень 1918).

У справе пашырэння і паглыблення нацыянальнай свядомасці моцным сродкам з'яўляўся тэатр. 19 мая 1918 года Першае таварыства беларускай драмы і камедыі было рэарганізавана ў Беларускі дзяржаўны тэатр на чале з Фларыянам Ждановічам. Народны Сакратарыят выдзяляў штомесячную субсідыю на ўтрыманне тэатра. Тэатр выязджаў на гастролі ў Магілёў, Бабруйск, Слуцк, Оршу, Жлобін, іншыя гарады і мястэчкі на Віленшчыне і Міншчыне.

Радай БНР былі зацверджаны дзяржаўныя сімвалы — пячатка з выявай Пагоні і герб "Пагоня". У якасці дзяржаўнага выкарыстоўваўся бел-чырвона-белы сцяг. Рада БНР атрымала пэўную падтрымку на месцах. Так, беларускія мясцовыя рады былі створаны ў Вільні, Магілёве, Слуцку, Бабруйску, Радашковічах і іншых месцах.

Рада БНР і Народны Сакратарыят ва ўмовах нямецкай акупацыі з'яўляліся грамадска-палітычным цэнтрам, вакол якога гуртаваліся нацыянальна свядомыя сілы, што імкнуліся рэалізаваць ідэю беларускай дзяржаўнасці ў форме народнай рэспублікі. У яе былі добрыя патэнцыяльныя магчымасці на развіццё і будучыню, аднак усё склалася іначай...

**Валянцін МАЗЕЦ,**
**малодшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН Рэспублікі Беларусь**

**P.S.** У газеце "Культура", здаецца, гады два таму, паведамлялася, што абвяшчэнне незалежнасці БНР адбылося ў былым Архірэйскім доме. Паводле даследавання, праведзенага аўтарам, акт 25 сакавіка 1918 года быў прыняты ў памяшканні Народнага Сакратарыяту па вуліцы Захар'еўскай, 43, якое ён арандаваў ад 19 сакавіка і амаль да канца 1918 года. Цяпер гэта дом N9 па вуліцы Валадарскага. Менавіта ў гэтым будынку працавалі курсы беларусазнаўства, тут была зацверджана дзяржаўная пячатка БНР.

**В.М.**

*На здымку:* Дом, у якім 25 сакавіка 1918 года была абвешчана незалежнасць БНР. З фотаархіва Уладзіміра Дзянісава.

КАНТРАМАРКА

# "БЫЛО ДАЎНЯЕ ПРАРОЦТВА..."

КАЛІ дзіцячую казку стварае вялікі пісьменнік, то напаўняе яе глыбінным зместам, магутнымі ідэямі, аўтарскай трывогай, болем за людзей, за іх надзеі, расчараванні, пакуты. І здараецца цуд: казку разумеюць усе ўзросты — яна аднолькава хвалюе і малое дзіця, і сталага юнака, і сівелую кабету.

Беларускі тэатр "Лялька" звярнуўся да адной з лепшых казак славутага ангельскага паэта, празаіка, драматурга канца XIX стагоддзя Оскара Уайлда "Хлопчык-Зорка". Яна прасякнута тымі ж ідэйна-мастацкімі матывамі, што былі ўласцівыя і для "дарослых", філасофскіх твораў пісьменніка. Адмаўленне ад маралі вядзе чалавека да пагібелі — вось ідэйны грунт рамана "Партрэт Дарыяна Грэя", галоўны герой якога набывае нязменнасць знешняга хараства ў абмен на згубу чалавечых якасцей — дабрыні, чуласці, спагады. Прыгажосць Хлопчыка-Зоркі таксама непарушна звязана з яго маральным абліччам: эгаізм і жорсткасць ператвараюць яго ў гнюснага вырадка.

Рэжысёр спектакля Віктар Клімчук здолеў максімальна наблізіцца да мастацкай сістэмы Уайлда, ідэйнага зместу яго творчасці (асабліва вылучыўшы тэму хрысціянскай міласэрнасці і самаахвяравання), адчуў і дакладна ўвасобіў аўтарскі стыль пісьменніка, што з'яўляецца вялікай рэдкасцю на сучаснай сцэне ўвогуле і ляльчнай у прыватнасці.

Адразу ж антычная сімволіка перагукаецца з хрысціянскай. Праз усю глядзельную залу праходзіць павольнае шэсце акцёраў-апавядальнікаў у белых строях. І ў гледача ўзнікае ланцуг асацыяцый. Хто гэтыя людзі? Постаці антычнага хору? Хрысціянскія святары? Анёлы-ахоўнікі? Ці проста цені памерлых? Гэтай няпэўнасцю, супярэчлівай недагаворанасцю заяўляецца сімвалісцкі стыль пастаноўкі.

Дэкарацыйнае ўсталяванне мае тры ярусы, тры ўзроўні: тут ёсць пэўны перагук з традыцыйным рэлігійным тэатрам, беларускай батлейкай. Тую ж функцыянальную ролю выконвае і мастацка-вобразная дамінанта — віфлеемская зорка, якая ўзнікае на лялечнай шырме.

На верхнім ярусе за празрыстай тканінай паўстаюць цені акцёраў, якія здымаюць лунаючыя ў паветры лялькі-марыянеткі і пачынаюць кіраваць іх рухамі, словамі, учынкамі, пачуццямі. І тады здаецца, што кожны чалавек мае свайго анёла-ахоўніка ці нейкую іншую вышэйшую сілу, якая абумоўлівае, вызначае кожны яго крок. Нездарма ж уверсе, сярод кружляючых лялек, узнікае нейкая дзяўчына, якая расплятае ніці нябачных лёсаў. А потым адтуль жа, зверху, пачуецца гучны, здзеклівы рогат нейкай постаці ў чорным. Тэма року, які вызначае жыцці герояў, натуральна абумоўлівае антычную сімволіку. У фінале, калі знікнуць "ляльчныя дэкарацыі" і аголіцца жывы, драматычны план, апавядальнікі ў белых строях прачытаюцца як старажытнагрэцкі хор. Будуць выкарыстаны маскі. Зноў, як і напачатку, прагучыць фраза высокай мудрасці: "Было даўняе прароцтва, што ў дзень гэты прыйдзе да нас той, каму суджана ўладарыць над намі".

Гэта — Уайлд у пачатковы перыяд сваёй творчасці, калі рамантычныя захапленні ўплывалі на яго зварот да антычнасці (найперш у вершах). Але ў другі перыяд, які не ўзнік раптоўна, пісьменнік развітаўся з рамантычна-эстэцкімі ілюзіямі, а культ прыгажосці саступіў месца культу пакутаў і — адпаведна — хрысціянскай сімволіцы, якая і пераважае ў спектаклі Беларускага тэатра "Лялька".

Адна з галоўных вартасцей пастаноўкі — стварэнне адметнай сцэнічнай атмасферы праз адпаведныя мастацкія сродкі — святло, музыку (кампазітар Алег Залётнеў), тэатральны жывапіс, экспрэсіўную характарнасць лялек-марыянетак (мастак Алесь Сідараў), напружана-стрыманую ігру акцёраў, якая раз-пораз узрываецца трагічна-безвыходнымі інтанацыямі. Ёсць зусім пэўны настрой, зусім канкрэтныя адчуванні часу і прасторы. Прынамсі, у мяне ўзніклі такія: Іспанія, эпоха Сярэднявечча. Для гэтага варта прыгадаць вохрыста-карычневы каларыт жывапісных заднікаў, касцюмы Прынцэсы і Цёткі, завострана-экспрэсіўную міміку Прakaжонага і Жабрачкі.

У ролі Хлопчыка-Зоркі выступілі дзве актрысы: кожная з іх мае свае напрацоўкі, як, зрэшты, і хібы. Тацццяна Атарава выдатна вядзе драматычную лінію вобраза, адчувае стыль пастаноўкі. Стрымaная манера ігры адпавядае сцэнічнай атмасферы, настрою тугі і прыгнечанасці. Ларысе Мартынавай больш удаецца лялькаваджэнне. На першых спектаклях высокія тоны, звонкія інтанацыі яе голасу рабілі дрэнную паслугу вобразу, стваралі непатрэбны аптымізм, бадзёрлівасць. Апошнія ж паказы сцвердзілі, што актрыса яшчэ працягвае працаваць над роляй і ёй усё больш падуладная драматычная лінія: з'яўляюцца больш дакладныя інтанацыі, вобраз добра ўпісваецца ў агульную, досыць змрочную, атмасферу пастаноўкі. Увогуле знайсці добрае спалучэнне драматычна-інтанацыйнага і ляльчнага планаў у спектаклі з марыянеткамі — задача надзвычай складаная, і трэба зазначыць, што акцёры віцебскай "Лялькі" спраўляюцца з ёй няблага. Да прыкладу — выканаўцы роляў Жабрачкі (Вольга Корзун), Пракажонага (Алег Рыхтар), Прынцэсы (Вольга Маханькова).

Спектакль Беларускага тэатра "Лялька" мае такі глыбінны змест, бо адрасаваны як юнаму, так і даросламу гледачу. Вядома ж, кожны ўзрост успрымае яго пасвойму: калі дзецям больш зразумелая думка пра тое, што за ўсе нядобрыя ўчынкі трэба адказваць перад людзьмі і перад Богам, то даросламу больш уцямна, што кожнаму з нас наканавана несці свой крыж. А хіба жыццё не ёсць бясконцым ланцугом выпрабаванняў?!

**Улад АЛЬШЭЎСКІ**



*На здымку:* артысты Вольга Корзун (злева), Ларыса Мартынава і Алег Рыхтар з лялькамі.

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БЕЛІНФАРМ.**

# НАРАДЖАЕЦЦА СТУДЭНЦКІ ТЭАТР



Цяжкасці цяжкасцямі, але там, дзе мэтанакіраваная праца, — ёсць вынік, ёсць поспех з перспектывай на будучыню. Заяўку на здзяйсненне мары — адкрыццё студэнцкага тэатра — зрабілі выкладчыкі і студэнты кафедры тэатральнай творчасці Беларускага універсітэта культуры. Тут адбылася прэм'ера спектакля паводле п'есы Алеся Петрашкевіча "Дагарэла свечачка...". Гэтую не простую для сцэнічнага ўвасаблення драму, па сутнасці разлічаную на аднаго акцёра, творча прачыталі рэжысёр-педагог Рыгор Баравік, мастак Ларыса Рулёва, пастаноўшчык пластыкі Уладзімір Лаўрухін, балетмайстар Вольга Бяляева пры фінансавай дапамозе Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Галоўную ролю Марфы бліскуча сыграла актрыса Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы Галіна Бальчэўская. Разам з ёй выступілі студэнты 2 і 3 курсаў. Адбылося плённае паяданне прафесійнага мастацтва са студэнцкім.

Творчы вынік безумоўны. Найперш уражвае глыбіня і пранізлівасць перажыванняў Марфы-Бальчэўскай: радасць і боль, адчуванне жаху чарнобыльскай трагедыі. Гэта боль тых, хто жыве на зняверанай зямлі. Нацыянальны боль. Спектакль дасканалы паводле атмасферы. Сцэнічнае, пластычнае, харэаграфічнае, музычнае, рэжысёрскае рашэнні наводзяць на роздум, ускрываюць падтэксты п'есы (напрыклад, сцэна з мутантамі-прывідамі, пачварамі, якія дзейнічаюць там — у пекле, але гэтае пекла як праекцыя на сённяшні дзень). Скразная тэма — тэма жыццёвага болю маці, які спараджаецца неўладкаванасцю людскога жыцця, а яно залежыць ад ідэалогіі, кіруючых сіл, залішняй цярплівасці і страху. Гэта і ёсць рэальнае жыццё Беларусі. Г.Бальчэўская вельмі тонка, душэўна і сцэнічна выразна выяўляе як аўтарскія акцэнты ў вобразе Марфы, так і рухі ўласнай душы. Перад намі не проста беларуская жанчына-маці, гэта яшчэ і алегорыя Беларусі-маці. Такое пачуццё і выказаную думку пацвердзіў аўтар п'есы Алесь Петрашкевіч, сказаўшы: "Гэта наша вёска, гэта наш настаўнік, гэта мая мама, гэта Беларусь".

Масавыя сцэны і эпізоды з удзелам студэнтаў таксама запамінальныя і выразныя. Пэўны



узровень прафесіяналізму і шчырасці, напрыклад, выявілі студэнткі 2 курса Аксана Буй і Жэня Жуковіч. З пастановачнага боку спектакль вырашаны лаканічна, нават аскетычна, але сімволіка яго, як кажуць, "страле ў дзесятку". Так, марля нібы пракладвае алегарычны чысты шлях героіні з гэтага на той свет. Натуральна, ёсць і пралікі, найперш абумоўленыя пакуль што тэхнічна не дасканалай сцэнай. Галоўны ж вынік — дакладнасць задумы і ўвасаблення, а таксама істотнае творчае дасягненне як Галіны Бальчэўскай, так і студэнтаў.

Гутару з Алесем Петрашкевічам. Аўтар п'есы задаволены прэм'ерай, хаця гэта ўжо і не першая яе прэм'ера, але тут, на студэнцкай сцэне, яна мае асаблівае значэнне. Здзяйсняецца яго дваццацігадовая мара, мара тады яшчэ першага рэктара Мінскага інстытута культуры пра студэнцкі тэатр. Але жыццё павярнула яго высілкі ў іншыя накірункі... І вось, нарэшце, цяперашні загадчык кафедры прафесар Анатоль Сабалеўскі практычна ажыўляе яго, Петрашкевіча, і сваю задумы. Падзеі, якая мусіць адбыцца, папярэднічала ўпартая праца на працягу апошняга года. Успамінаецца прэм'ера "Клас-канцэрта" на тэму вучэбна-творчага працэсу, якая адбылася напрыканцы мінулага вучэбнага года. Канцэрт-імправізацыю сыгралі некалькі разоў тады, працягваюць іграць і сёння.

Студэнты ўсіх курсаў пры непасрэдным удзеле выкладчыкаў кафедры і вядомых майстроў сцэны Нацыянальнага тэатра імя Янкі Купалы — народнай артысткі Беларусі Ліліі Давыдовіч і артысткі Галіны Бальчэўскай. Той канцэрт стаўся першай спробай стварыць студэнцкі тэатр-студыю, які прынясе гонар універсітэту. Мяркуецца, што разам са студэнтамі на падмосткі будуць выходзіць і педагогі кафедры, і акцёры мінскіх тэатраў. Гэта будзе тая школа, якая стане карысная і студэнтам, і майстрам.

Пажадайма шчаслівай творчай вучобы, удачы студэнтам і педагогам, майстрам прафесійнай сцэны на сцэне тэатра-студыі Беларускага універсітэта культуры, з якой, як вобразна выказаўся Алесь Петрашкевіч, "устрапянуць людзей трэба".

**Яўген АДАМОВІЧ**



*На здымках:*

1. Галіна Бальчэўская ў спектаклі "Дагарэла свечачка...".
2. "Клас-канцэрт" (студэнты 1 і 2 курсаў выконваюць эцюд "Змяя").
3. "Клас-канцэрт" (студэнты 3 курса Алена Баўшына і Канстанцін Станюк выконваюць эцюд "Майстар і Маргарыта").

**Фота У.КРУКА**

АВАНСЦЭНА

# "Žygimont VAZA" — МУЗЫКА СТРАЧАНАГА КАРАЛЕЎСТВА

***Шмат у каго цяпер складваецца ўражанне, што беларускі рок-рух, з'ява некалі жыццёвая і перспектыўная, пачынае ісці на збыт. Сапраўды, да плеяды "рок-герояў" за апошні час ніхто не далучыўся, а старыя гурты пакрысе распадаюцца. Аднак з'яўляюцца (а можа, ужо даўно і з'явіліся) новыя твары, хаця не ўсе чамусьці звяртаюць на іх увагу.***

***Гурт "Žygimont VAZA", амаль непрыкмечаны "гігантамі шоў-бізнеса", знайшоў, аднак, свайго слухача і карыстаецца пэўнай папулярнасцю. Гэта і не дзіўна, бо яго музыка і творчая канцэпцыя вылучаецца на тле размаітых і збольшага другасных фармацый. "ŽV" цяжка паставіць у адзін шэраг з кімсьці, бо самабытнасць тут праяўляецца ва ўсім. Нават правапіс, якім карыстаюцца сябры гурта, розніцца ад якога б там ні было агульнапрынятага.***

***Гісторыя гурта абрасла плёткамі і легендамі, стваральнікі якіх, часцей за ўсё, самі музыканты. Дзеля таго, каб крыху развеяць іх (ці стварыць новыя), я сустрэўся з нязменным лідэрам "ŽV" Сержуком СКРЫПНІЧЭНКАМ.***

**Гальляш СВІРЫН:** — Назву твайго гурта амаль усе "недзе чулі", але, на жаль, большасць пра вас анічога не ведае. Калі можна, некалькі слоў аб гісторыі "Žygimont VAZA". Як вы пачыналі?

**Сяргей СКРЫПНІЧЭНКА:** — У 1988 годзе мой гурт, дагэтуль лакальны, аб'яднаўся, узнікла агульная ідэя, і мы пачалі рабіць нейкі рок-н-рол. І з умоўнай назвай "BASTINDA" прыехалі ў Коўна і патрапілі на паўлегальны (па тых яшчэ часах) рок-фэст "FuckCom". Ён адбыўся на ўскраіне горада, у нейкім памяшканні накшталт складу. Але мы там занялі трэцяе месца за невызначальны стыль. У 1989 годзе ў Паланзе я пазнаёміўся з дзяўчынай па імені Аста, у якой на грудзях квітнела татуіроўка родавага герба караля Жыгімонта Вазы. Ёй спадабаўся сам малюнак. Цяпер мы з ёй зусім розныя людзі, але мой гурт так і называецца "Žygimont Vasa", і я не збіраюся змяняць назву.

**Г.С.:** — На той момант, калі я вас упершыню пачуў, а было гэта ў годзе так 1992, вы гралі нешта кшталту "бондаўскай" хвалі. Потым вашая музыка стала нагадваць пост-панк, і вось цяпер — хардкор. З чым звязана такая эвалюцыя стылю — з натуральным ходам часу ці з патрабаваннямі кан'юнктуры?

**С.С.:** — Спачатку мы сапраўды гралі такі хард-блюз а-ля "Леды Панк", але потым стала зразумела, што сутнасць не ў тым, што мы граем, а як мы граем. Так, мы сталі больш жорсткімі. Мы сталі такімі, якімі павінны былі быць спачатку, і тое, да чаго мы дайшлі зараз, — гэта тое, да чаго мы імкнуліся ўвесь час. Гэта натуральная патрэба часу.

**Г.С.:** — Але разам са стылем вельмі часта змяняецца і склад твайго гурта...

**С.С.:** — Гурт "ŽV" — гэта Сяржук Скрыпнічэнка і К°. І тое "К°" увесь час мяняецца. Кожны канцэрт, кожны запіс — новыя музыкі! Самая ідэя заўсёды нараджаецца ў мяне. Мне цікава набіраць новых людзей, і я думаю, гэта вельмі ўзбагачае аранжыроўкі.

**Г.С.:** — Такі індывідуалістычны падыход нязвычны для нашых мясцінаў. Мастацтва XX ст. збольшага прасякнута ідэямі адмаўлення і дэканструкцыі.

**С.С.:** — Мы выкарыстоўваем сваё права шукаць. Гэта і ёсць тое, калі мы ў любой форме знаходзім свой сэнс. А не спачатку сэнс, а потым ужо форма. Мы знаходзім сваю форму, і там працуем як хочам.

Мы не проста незалежныя там ад чагось, мы незалежныя ЎВОГУЛЕ! Наш "індэпендэнт" выцякае з паняцця сутнасці як сутнасці жыцця, з барацьбы з сутнасцю смерці, якой тут запоўнена, здаецца, усё. Гэта можна назіраць у форме адтаржэння жывога, поўнай прафанацыі Жыцця. Гэта таксама і колькасць прафанатараў у мастацкім асяроддзі Беларусі. Назіраем сувязь: узнікненне новай ідэі ці формы — адтаржэнне. Наш "індэпендэнт" — дзеля таго, каб сказаць праўду, хто ёсць хто. А прыклад менавіта беларускага "інды" — асоба Міхоэлса, якога "прыбрала" ГПУ.

Мы не пяем пра Скарыну, пра Пагоню. І ніколі не ставілі сабе за мэту дамагацца нейкай беларушчыны. Тое, што мы ёсць — гэта ўжо беларушчына, якой бы яна ні была!

**Г.С.:** — Ты спяваеш па-беларуску, хаця твая публіка, ды і ты сам, карыстаецеся ў жыцці расейскай мовай...

**С.С.:** — Мы размаўляем па-расейску, бо так размаўляюць нашы сябры, хаця яны таксама лічаць сябе беларусамі. Мы выраслі на расейскай культуры, але мы ведаем беларускую мову, чытаем беларускую літаратуру і будзем захоўваць іх. Але ў некаторых сітуацыях мы размаўляем па-расейску. Бо гэта натуральна.

**Г.С.:** — А ці "двухмоўе" не замінае творчасці?

**С.С.:** — Ні ў якім разе, бо творчасць — гэта ад сэрца. А ў сэрцы ў нас толькі беларускае. А тое, як мы гаворым, — непрынцыпова. Думаць па-беларуску — гэта не значыць думаць выключна на беларускай мове, а думаць па беларускіх межах; не геаграфічных, а культурных.




**Г.С.:** — Ад чаго залежыць твая творчасць — ад з'яў знешніх ці ўнутраных?

**С.С.:** — Ад суплёту, злучэння знешніх і ўнутраных з'яў. Тое, што адбываецца вакол, безумоўна, не можа не адбіцца на маёй творчасці. А сама творчасць — знутры.

**Г.С.:** — Значыць, прыкладам, палітыка ў цябе выяўляецца неяк падсвядома?

**С.С.:** — Нават свядома, канкрэтна! Да нядаўняга часу я займаўся толькі чыстым мастацтвам, пасля таго як перастаў цікавіцца палітыкай больш ці менш сур'ёзна, але потым, напрыканцы 1994 года я і шэраг маіх сяброў зразумелі, што ў гэтай краіне немагчыма займацца творчасцю, бо ўсё завязана на палітыцы. Бізнесам тут займацца немагчыма таксама з-за постсавецкіх законаў. І нам застаецца толькі адно — перарабіць палітычную сітуацыю, каб займацца творчасцю і бізнесам. Я — прафесійны палітык. Яшчэ з часоў "Талакі" не як "плюс-мінус" удзельнічаў у палітычным жыцці краіны. Цяпер я з'яўляюся сябрам рэвізійнай камісіі ПАП. Я стаяў ля вытокаў гэтае партыі.

**Г.С.:** — Значыць, у тваіх кампазіцыях з'яўляецца палітычная тэматыка?

**С.С.:** — Не трэба блытаць маю музыку з палітыкай! Так, я працую на палітыку, і нават у бліжэйшы час буду балатавацца на выбарах у Вярхоўную Раду. Творчасць і палітыка могуць быць звязаныя і не звязаныя. Я знаходжу залатую сярэдзіну.

**Г.С.:** — Ты падзяляеш сваю асобу на палітыка і рок-музыканта?

**С.С.:** — Безумоўна, бо ў нашай краіне інакш немагчыма. Я сам родам з Летувы і бачу, што там робіцца. Там нават думаюць так, што гэта перавышае наш узровень на шмат пунктаў! Мы ж жывем у правінцыі. Мы засталіся "Северо-Западным краем России", толькі Расея пра гэта нават не ведае. Мы калонія не для Расеі, мы калонія для саміх сябе!

**Г.С.:** — Добра, а якія ты бачыш шляхі...

**С.С.:** — Выйсця?

**Г.С.:** — Ну, гэта было б занадта банальна...

**С.С.:** — Не, не банальна! Зараз такія арганізацыі, як Партыя свабоды, "Правы рэванш", ПАП вынайшлі нейкую агульную палітычную схему. Трэба адкрываць правы фронт мастацтваў, як было ў Славеніі і іншых усходнееўрапейскіх краінах. Гэта будуць экстрэмальныя вырашэнні праблем. Мы працуем на культуру беларусаў як нацыі, хаця я лічу, што яна была знішчаная пасля падзелаў Рэчы Паспалітай.

**Г.С.:** — Што ты маеш на ўвазе пад правым фронтам мастацтваў? Хіба мастацтва можа быць правым ці левым? Або ізноў таталітарызм?

**С.С.:** — Гэта таталітарызм, але не ў тым плане, што дзяржаўная сістэма ўздзейнічае на культуру, а менавіта тое, калі культура вымушае палітычных дзеячаў займацца тым, чаго патрабуе культурная сітуацыя. Гэта вельмі складана, і гэта не справа месяца ці года. Але мы вымушаныя гэтым займацца.

**Г.С.:** — Добра, давай зменім тэму размовы, бо палітыка ўсім, мякка кажучы, надакучыла. Як ты пачуваешся ў горадзе Менску?

**С.С.:** — Менск — гэта пакінутая казарма! Шмат часоў імперскія войскі тут нечым займаліся, баявая, палітычная падрыхтоўка і г.д. А потым войскі вывелі, а казарма засталася. Тое ж дзяленне на мікрараёны, калі жылая зона — працоўная зона — гандлёвы цэнтр — паліклініка — школа — дзіцячы садок — кінатэатр — і ўсё. У нас нават песня ёсць у двух варыянтах: "Пакінутая казарма". Тое самае тычыцца і культуры. Старыя войскі пакінулі казарму, а новыя яшчэ не сфармаваныя. Гэта багна, гэта балота...

**Г.С.:** — Але пакінутая казарма — гэта ці не постмадэрновы сімвал. На маю думку, такая атмасфера вельмі спрыяльная для творчасці, і беларускае мастацтва патэнцыяльна можа стацца вельмі моцным.

**С.С.:** — Безумоўна! Творчасць можа ўзнікаць толькі ў тым грамадстве, дзе няма для яе ўмоваў. Там, дзе яны ёсць, культура робіцца нейкай штатнай, пазаштатнай... Унікальнасць нашай сітуацыі ў тым, што тут неапрацаванае поле для дзейнасці.

Як культуролагі, мы будзем рабіць сваю культурную сітуацыю. Яна павінна ўздзейнічаць на ўсе слаі грамадства. І мы яе зробім, бо гэта наша задача.

**Г.С.:** — Але ў дэмакратычным грамадстве сітуацыю робяць творцы, а не культуролагі...

**С.С.:** — На тых, хто супраць, мы не будзем звяртаць увагі. Трэба ўсведамляць, што наш народ не горшы за іншыя. Таму на належны ўзровень можна ўзняць і нашу культуру.

**Г.С.:** — Дастасоўваючы апошняе выказванне да самога сябе, ці можаш ты сказаць, што твая творчасць адэкватная, прыкладам, "Led zeppelin" ці, калі бліжэй, "Дэд кеннэдыз"?

**С.С.:** — "LZ" гралі сваю музыку, яны менш за ўсё думалі пра тое, што робяць уклад у сусветную культуру. Яны проста рабілі сваё. А тое, што атрымалася, — гэта ўжо праца крытыкаў, грамадскай думкі. Я не збіраюся параўноўваць сябе з "LZ". Калі нас успрымае грамадства, мы будзем рады, калі нас будуць насіць на руках, мы не будзем супраць. Але мы проста творым — і ўсё! Таму такія паралелі не маюць сэнсу.

**Г.С.:** — Цудоўны адказ! Але ў цябе з-за тваёй самавітай пазіцыі і індывідуалізму могуць узнікнуць супярэчнасці з калегамі і сябрамі. Якія ў цябе з імі адносіны?

**С.С.:** — Мы можам разыходзіцца адзін з адным у чым заўгодна, але мы ўяўляем сабе адзіную мэту — незалежную вольную Беларусь. І пакуль гэтая мэта не будзе дасягнутая, усе нашыя асабістыя амбіцыі мы схавалі. Мы кансалідаваныя ў адной суполцы, і нашыя амбіцыі нічога не вартыя. Мы працуем на адну ідэю — незалежную Беларусь. І мы збудуем яе.

# "ПРЫХОДЗЬЦЕ ПАЛЯЧЫЦЬ ДУШУ..."

Калі б мне ў духу нашага часу прапанавалі скласці рэкламу, каб прыцягнуць увагу да творчасці музыкантаў Вячаслава Зяленіна (скрыпка) і Аляксандра Мільто (клавесін, арган), я, напэўна, сказаў бы наступнае: "Усе, хто стаміўся назіраць за праявамі ў грамадстве незадаволенасці, раздражнення, бяздумства, нуды, прыходзьце палячыць душу музыкай светлай, шчырай, палётнай, якая сумуе і весяліцца прыгожа і па-добраму. Вялікія музычныя натхненні вернуць вам свежасць успрыняцця жыцця і надзею на лепшае!"

Мяркую, гэтыя пачуцці спаўна перажылі слухачы, што пабывалі на канцэрце цудоўнага дуэта ў мінскім касцёле св.Роха. Асаблівы настрой ствараўся дзякуючы каляднаму ўбранству залы: свяціліся агеньчыкамі маленечкія елкі, што атачалі выяву пакланення немаўляці Хрысту, а ўверсе лунала ў паветры лацінскае слова "мір" — яго так нам усім не хапае сёння!

Першыя ж гукі Санаты фа мажор Карэлі прынеслі нейкую ўзнёслую радасць. Нездарма кампазітар з'яўляецца аўтарам аднаго з найтанчэйшых у сусветнай музыцы твораў, прысвечаных каляднай ночы — свайго знакамітага аркестравага Канцэрта N8. У той вечар прагучалі творы не толькі заснавальніка Рымскай скрыпічнай школы, але і іншых яе прадстаўнікоў, вучняў Карэлі. Склаўшы праграму канцэртаў з твораў досыць блізкіх адзін да аднаго па музычным стылі, В.Зяленін і А.Мільто паставілі перад сабой задачу вялікай цяжкасці. Для яе вырашэння неабходна было знайсці гукавыя сродкі, якія падкрэслілі б індывідуальнасць кожнага кампазітара, каб канцэртныя нумары не зліліся для слухача ў адну бясконцую паўтарагадзінную санату, часткі якой падобныя адна да адной, як кітайцы на погляд еўрапейца. Музыкантам удалося зрабіць выкананыя творы яркімі непаўторнымі партрэтамі іхніх аўтараў. Слухач мог адчуць, якімі чыста чалавечымі якасцямі, асаблівасцямі тэмпераменту, складам мыслення адрозніваюцца стваральнікі прагучаўшай музыкі.

Строгім, шляхетным лірыкам паўстаў Карэлі. Захапіў нечаканымі, непрадказальнымі, часам прыцудлівымі спараджэннямі сваёй палкай фантазіі Джэмініяні. Захапіў глыбінёй і сілай перажыванняў Лакатэлі. Кастручы — кампазітар у нас малавядомы — аказаўся таленавітым музычным дойлідам, які з дапамогай скрыпкі і аргана пабудаваў велічны і прыгожы "гукавы сабор". Своеасаблівыя рысы набыла ў канцэрце і музыка іншых аўтараў, якія стварылі славу "залатога стагоддзя" скрыпкі.

Каб так глыбока і пераканаўча інтэрпрэтаваць музыку, замала быць толькі "салавейкам, што спявае на галінцы". Патрэбныя веданне стылю, вялікая музычная эрудыцыя, псіхалагічная тонкасць, багатая палітра гукавых сродкаў. Усе гэтыя якасці, несумненна, В.Зяленін і А.Мільто маюць, што робіць іхнюю ігру не проста агучваннем нотнага тэксту, а прадуманым змястоўным вытлумачэннем.

Выканальніцкая манера музыкантаў заснаваная перадусім на выдатнай тэхнічнай аснашчанасці, тонкім пачуцці ансамбля. Разам з тым ярка праявілася рыса, якая яднае ўсе прагучаўшыя творы — іхні шырокі, тыпова італьянскі меладызм. В.Зяленін прадэманстраваў дасканалае "спяванне на скрыпцы", рамантычнае эмацыянальнае "бельканта", якое адкрылі Карэлі і ягоныя паслядоўнікі. Варта прыгадаць, што і сам геніяльны італьянскі кампазітар, і ягоныя вучні лічыліся непераўзыдзенымі скрыпачамі свайго часу, і для ўпэўненага выканання іхняй музыкі патрабуецца сапраўдная віртуознасць.

Як чароўна адцяняецца яркі, насычаны, чысты гук В.Зяленіна тонкімі карункамі клавесінных пасажаў! Якую светлую ўрачыстасць гучанню ансамбля надае арган!

Я не ўпершыню слухаю выступленні В.Зяленіна і А.Мільто, лічу сябе паклоннікам іхняга выканальніцкага майстэрства. Відавочна, вялікая педагагічная праца не дазваляе ім часцей даваць канцэрты. Але ж кожнага разу адкрываюцца новыя абшары іхняга шырокага рэпертуару. Як прыемна ўсведамляць, што ёсць у нас бліскучыя музыканты-асветнікі, здольныя прылучыць сваіх слухачоў да сусветнай музычнай культуры, даць высокую насалоду зносінаў з шэдэўрамі!

**Юрый ЗЛАТКОЎСКІ**

## АРХІЎ

Якаў ЛЕНСУ

# ТЭАТР РЭЧАЎ, ЦІ МІНУЛАЯ ЭПОХА ПРАЗ РЭЧАВЫ СВЕТ

## РАЗВАГІ ДЫЗАЙНЕРА

*(Заканчэнне. Пачатак у № 9, 11)*

### ЗЯЛЁНЫ АГЕНЬЧЫК

У канцы 60-х масквічы і госці сталіцы СССР маглі бачыць на вуліцах горада нязвыклую машыну-таксі. Гэта быў аўтамабіль вагоннай канструкцыі, разлічаны на 6-8 месцаў, нешта накшталт сучаснага мікрааўтобуса. Дзверы машыны адчыняліся не вонкі, як ва ўсіх аўтамабілях, а ссоўваліся ўбок, як у метро. Каб увайсці ў таксі, не трэба было згінацца ў тры пагібелі, патрабавалася толькі крышачку схіліць галаву — уваход быў дастаткова высокі, ён дазваляў нават укаціць у салон інвалідную каляску. З багажом таксама не было праблем: умяшчальны багажнік ззаду машыны мог прыняць не адзін вялікі чамадан. Прываблівалў вока знешні выгляд аўтамабіля: чыстыя, дынамічныя формы, прыемныя прапорцыі, вялікія шкляныя вокны з добрым аглядам, выдатная якасць абліцоўкі кузава.

Аўтамабіль-таксі быў распрацаваны ў нядаўна адкрытым у Маскве Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце тэхнічнай эстэтыкі (ВНИИТЭ). Інстытут разам са сваімі філіямі, створанымі амаль ва ўсіх саюзных рэспубліках, у тым ліку і ў Беларусі, пачаў работу па праектаванні сучаснага рэчавага асяроддзя. Адной з асноўных канцэптуальных распрацовак ВНИИТЭ сярэдзіны 60-х гадоў і было стварэнне новай мадэлі гарадскога таксі. У працэсе работы над праектам спецыялісты Інстытута прапрацавалі ўвесь комплекс пытанняў, звязаных з вытворчасцю і эксплуатацыяй аўтамашыны — ад зручнасці правозу пасажыраў і бяспекі вадзіцеля да забеспячэння механізаванай чысткі і мойкі аўтамабіля. Вопытны ўзор таксі на працягу месяца знаходзіўся на выпрабаванні ў адным з таксаматорных паркаў Масквы. Вынікі былі цалкам задавальняючыя. Было прынята рашэнне аб выпуску на Ерэванскім аўтазаводзе вопытнай партыі. Але, на жаль, рашэнне гэтае не было выканана, цікавая машына так і засталася ў адным экземпляры, які зараз захоўваецца ў музеі 19-га маскоўскага таксаматорнага парка. Дарэчы, такім быў лёс многіх айчынных дызайнерскіх распрацовак 60 — 70-х гадоў. Мадэлі новых вырабаў праходзілі выпрабаванні, атрымлівалі добрыя ацэнкі і... станавіліся экспанатамі. Начальству галоўнае было зрабіць справаздачу перад сваім, больш высокім начальствам аб "проделанной работе". Далейшае ж чыноўнікаў не цікавіла. Не дзіва таму, што мы мелі тое, што мелі...

### ГАРБАТА З ПАЛІТЫЧНЫМ ПРЫСМАКАМ

70-я, "застойныя". Як ні заклікае чарнабровы лідэр, наша эканоміка не хоча станавіцца "эканомнай". Мы ўзводзім новабудоўлі, якія вымагаюць велізарных сродкаў, плануем паварот вялікіх сібірскіх рэк, а ў гэты час з паліц крамаў многіх гарадоў пастулова знікаюць рэчы, прадукты першай неабходнасці. Аднак усімі сродкамі людзей упэўніваюць у грандыёзнасці дасягненняў дзяржавы. Чым менш тавараў, тым больш ідэалогіі. Яе імкнуцца ўкараніць паўсюдна, дзе магчыма і немагчыма.

...Цягнік рытмічна грукае коламі на стыках рэйкаў. За акном вагона хутка мільгаюць голыя кроны дрэў. Правадніца ўносіць у купэ шклянкі з гарбатай. Добра піць гарачую гарбатку, гледзячы ў вакно на бяскрайнія заснежаныя прасторы. Але вось гарбата выпіта, пустая шклянка ад штуршкоў поезда звонка бразгоча ў металічным падшклянніку. На яго баку ў рэльефным вяночку з дубовых лісцяў і каласоў красуе надпіс: "60 лет Великой Октябрьской революции". Наш цягнік яшчэ шпарка шыбуе да камунізму...

### "PERESTROIKA" — ПАРЫЖСКАЯ СЕНСАЦЫЯ

З цікавасцю і недаверам глядзелі наведнікі міжнароднага Парыжскага аўтасалона 1988 года на прыгожы, нязвыклай формы грузавік, які размясціўся на адным са стэндаў. Ці праўда, што гэтая машына створана ў СССР? Раней жа Савецкі Саюз дэманстраваў не надта цікавыя, у асноўным пераймальныя па дызайне мадэлі. А гэты аўтацягнік пад дэвізам "Perestroika" — нешта незвычайнае, арыгінальнае. Так была сустрэта ў Парыжы новая мадэль беларускага грузавіка "МАЗ-2000". Яна і сапраўды была прыгожая, гэтая машына: кабіна мяккай абцякальнай формы, суцэльнае ветравое шкло на даўжыню салона, прыборная панель сучаснай пластыкі, грузавая частка аўтацягніка — арганічны працяг пластыкі кабіны. Увогуле нездарма грузавік, зроблены дызайнерамі з Беларусі, так уразіў парыжан. Можна сказаць, што беларускі дызайн тады, ужо набраўшы сілу, досыць выразна заявіў пра сябе на міжнароднай арэне. Час "перабудовы"... Колькі надзей ён спарадзіў! Тады і дызайнерам уяўлялася, што наперадзе вялікая, адкрытая дарога. Толькі што быў арганізаваны творчы дызайнерскі саюз, з якім звязвалася шмат спадзяванняў. Думалася, што вось зараз можна будзе нарэшце ўзяцца за пераўтварэнне нашага рэчавага свету. Але, як пазней высветлілася, у блізкай будучыні нас усіх чакала шмат непрыемнага, у тым ліку нястрымнае падзенне вытворчасці, якое пакінула дызайнераў амаль без працы. Але гэта ўсё яшчэ наперадзе, а пакуль — лаўры поспеху на Парыжскім аўтасалоне і надзеі, надзеі...



### МАТРОШКА З ТВАРАМ ПРЭЗІДЭНТА

Гудзе заснежаны Арбат. Нягледзячы на холад (на двары снежань), гандляроў на старажытнай маскоўскай вуліцы досыць. Прадаюць усё — ад твораў жывапісу да рэлігійных кніг. Але, безумоўна, самым кідкім таварам з таго, што прапануюць тут пакупнікам, з'яўляюцца матрошкі, у абліччах якіх без памылкі можна пазнаць знакамітых палітычных дзеячаў мінулага ці сучаснасці. Канечне ж, найбольш папулярныя тут выявы прэзідэнтаў Гарбачова і Ельцына. Вось яны, вечныя антаганісты, дзве процілегласці, якіх спарадзіла адна і тая ж сістэма, усміхаючыся, стаяць побач на прылаўку бойкага гандляра незвычайнымі сувенірамі.

На двары студзень... Студзень 1991-га. Толькі што ў Віскулях падпісана дамова аб скасаванні СССР. На Арбаце пра гэта яшчэ не ведаюць. Мірна стаяць побач матрошкі з выявамі прэзідэнтаў, але лёс аднаго з іх ужо вырашаны. З яго ж адыходам, з заканчэннем гісторыі Саюза Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік канчаецца і эпоха, што пачалася ў кастрычніку 1917-га. Што чакае рэспублікі былога Саюза ў будучым, пакуль не ведае ніхто, але гэта ўжо будзе новая, нейкая зусім іншая эпоха, з іншымі людзьмі, іншым светапоглядам, з іншым рэчавым светам...

* * *

*Адышла ў мінулае поўная супярэчнасцяў эпоха, якую будуць яшчэ доўга даследаваць і асэнсоўваць людзі наступных пакаленняў. Як мы бачылі, у рэчавым свеце адлюстравалася гісторыя краіны пад назвай "СССР" за гэтыя семдзесят пяць гадоў. Прастата і спартанскі дух прадметнага асяроддзя першых паслярэвалюцыйных гадоў былі адбіткам рамантычных ідэй, матэрыяльных цяжкасцяў, стыхійнага дэмакратызму тагачаснага жыцця. Высокі ўзлёт творчай фантазіі мастацкай інтэлігенцыі, што ўспрынялі рэвалюцыю як ачышчальны агонь, праявіўся ў наватарскіх рэчах, распрацаваных першымі савецкімі дызайнерамі, мастакамі-"производственниками". Агітацыйны характар дызайну і падкрэсленая пампезнасць прадметнага свету ў 30 — 40-я гады адлюстравалі станаўленне таталітарызму, прыгнечаную атмасферу "сталінскага ампіру", што, аднак, не выключала прарываў вынаходніцкага генія народа ў стварэнні сапраўды першакласных вырабаў у розных галінах прамысловасці (радыёпрыёмнікі, фотаапараты, некаторыя сродкі наземнага, воднага і паветранага транспарту). Моцны імпульс аптымізму, што народжаны перамогай над гітлераўскай Германіяй, праявіўся ў інтэнсіўным развіцці буйнога машынабудавання (вытворчасць цяжкіх самазвалаў, трактараў, легкавых аўтамашын і інш.). Разам з тым мы бачым невысокі ўзровень побытавых рэчаў даваеннага і пасляваеннага перыяду, што адлюстроўвае стаўленне дзяржавы да чалавека на фоне захаплення развіццём цяжкай прамысловасці. Хрушчоўская "адліга", пачатак гаспадарчай рэформы 60-х гадоў спарадзілі новы падыход да формаўтварэння рэчавага свету. Гэта праявілася ў павышэнні мастацкіх якасцяў прадметаў побыту, абсталявання інтэр'ера, у даволі шырокім укараненні ў вытворчасць метадаў дызайну. За "адлігай" — застой. Зноў перавага паказушнай "прыгажосці". І нарэшце — перыяд "перабудовы" з вялікімі надзеямі, з вялікімі планамі; перыяд, якому суджана было стаць апошняй кропкай эры сацыялізму на абшары цяпер ужо былога СССР. Адышла эпоха, але засталіся рэчы, засталіся іх выявы ў кнігах і часопісах, па іх мы чытаем хроніку мінулых часін, у іх абліччы распазнаём партрэт эпохі.*

# РАСФАРБАВАЦЬ БЕЛЫЯ ПЛЯМЫ ГІСТОРЫІ

27 — 28 лютага ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны прайшла навукова-практычная канферэнцыя "Сучасная гістарычная навука і музеязнаўства аб праблемах Вялікай Айчыннай вайны". Прывітальны адрас удзельнікам канферэнцыі даслала пасольства Ізраіля. Ад імя Міністэрства культуры і друку да навукоўцаў і прадстаўнікоў ледзь не ўсіх дзяржаўных музеяў з вельмі змястоўнай прамовай звярнуўся Уладзімір Гілеп.

Прызнаўшы неабходнасць перагляду канцэпцыі адлюстравання падзеяў Другой сусветнай вайны, першы намеснік міністра са шкадаваннем нагадаў, што наш час не спрыяе стварэнню новых музейных экспазіцый. Фінансаванне культуры ў параўнанні з мінулым годам зменшылася на 20 — 25 працэнтаў і складае толькі каля 1 працэнта бюджэту, што значна меней за вызначаную Законам аб культуры лічбу. Таму ў 1995 годзе кожны музей атрымае ад міністэрства толькі 40 — 80 працэнтаў ад запрошанай сумы (за выключэннем мемарыяла "Брэсцкая крэпасць", які сам абмежаваў свае выдаткі). Міністэрства робіць усё магчымае, каб перажылі гэты цяжкі час бібліятэкі і дамы культуры, яно ўзяло на свой бюджэт многія ўстановы культуры на вёсцы, але не можа дазволіць сабе зрабіць гэта ў горадзе, дзе калісьці заможныя прафсаюзы ўжо не ў стане ўтрымліваць свае палацы культуры.

Тым не менш ва ўсіх буйных гарадах апошнім часам з'явіліся новыя музеі або былі пашыраны плошчы ўжо існаваўшых. Ствараюцца музеі Касцюшкі, Міцкевіча, Манюшкі, Орды, Буйніцкага ды іншых выбітных дзеячаў нацыянальнай гісторыі і культуры. Нацыянальнай? Так: напрыклад, Манюшка да 40 гадоў нават не ведаў польскай мовы, а галоўнае — усе ягоныя кампазіцыі створаны на аснове беларускіх народных спеваў. Прыйшоў час не саромецца сваіх продкаў, ствараць умовы для патрыятычнага выхавання.

Дзеля гэтага, падкрэсліў У.Гілеп, мы павінны вярнуць на радзіму разрабаваную культурную спадчыну. Зрэшты, многія каштоўнасці не рабаваліся, як цяпер ківаюць, а папросту дарыліся суседзям урадам былой БССР: Радзівілаўскую галерэю перадалі Польшчы, бібліятэку Храптовіча — Украіне і г.д. Усё лепшае аддалі мы самі. Цяпер усе краіны-суседкі маюць па 100 і болей слуцкіх паясоў, а Беларусь — толькі два, і тыя ўжо нам падарылі граф Цеханавецкі і Музей этнаграфіі народаў СССР.

Пэўныя крокі насустрач нам у справе вяртання робіць Польшча. Іншая рэч — Расія. Падчас візіту ў Беларусь міністра замежных спраў РФ Андрэя Козырава мы перадалі расійскаму боку 67 абразоў, уратаваных беларускімі мытнікамі ад кантрабанднага вывазу на Захад. Нам абяцалі прывезці ўзамен падчас візіту Ельцына слуцкі пояс і Біблію Скарыны — але не прывезлі. Прадстаўнікоў нашага міністэрства не дапускаюць у фонды некаторых расійскіх музеяў, дзе захоўваюцца вывезеныя з Беларусі каштоўнасці.

Тым не менш падчас візіту Ельцына ўдалося дамовіцца з міністрам культуры Расіі сп.Сідаравым аб стварэнні супольнай камісіі па вяртанні культурнай спадчыны, напачатку — у выглядзе фотакопій і муляжоў. У.Гілеп, аднак, параіў музейным работнікам не надта спадзявацца на міждзяржаўныя камісіі, а дамагацца вяртання вывезеных каштоўнасцяў праз асабістыя кантакты з калегамі ў Расіі: менавіта такі спосаб дзеяння ўжо дазволіў вярнуць з Санкт-Пецярбурга археалагічную калекцыю.

Асноўная думка, якая гучала на канферэнцыі, — прыйшоў час прыбраць белыя плямы не толькі ў падручніках па гісторыі, але і ў музейных экспазіцыях, прысвечаных перыяду Вялікай Айчыннай вайны.

Асабіста мне найбольш цікавым падалося спавешчанне кандыдата гістарычных навук У.Кузьменкі "Аб новых падыходах у асвятленні гісторыі народнай барацьбы на Беларусі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў". Паводле яго, усёй глыбіні праўды аб вайне нашая навука (як і грамадская думка) яшчэ не дасягнула. Падчас акупацыі на Беларусі дзейнічалі ўзброеныя атрады рознай арыентацыі: савецкай, германскай, польскай, украінскай, уласна беларускай. Таму можна, у пэўным сэнсе, казаць аб грамадзянскай вайне. Прычым савецкіх партызан і Чырвоную Армію падтрымлівала далёка не большасць насельніцтва. Сяляне баяліся партызан ледзьве не больш, чым немцаў, бо толькі свае ж расстралялі больш за 2300 партызан за марадзёрства і рабаўніцтва. Разам з тым мы не павінны змяняць сёння ўсе ранейшыя ацэнкі на супрацьлеглыя, бо сярод калабарацыяністаў былі не толькі сапраўдныя патрыёты Беларусі, але і ваенныя злачынцы, і амаральныя людзі. Калі згадаць брыгаду СС "Белая Русь", паэтызацыі "змагароў з бальшавізмам" не атрымаецца.

Канферэнцыя засведчыла, што не толькі гістарычная навука Беларусі, але і музеязнаўства павінны вызваліцца ад ранейшых стэрэатыпаў, павінны дамаляваць пакуль адсутныя ў вобразе "краіны-партызанкі" рысы яе гістарычнага лёсу.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## ЗАМЕСТ КРОПКІ

НЕ ТАК даўно патэлефанавала мне дахаты жанчына.

— Вы прабачце мяне за турботы, але я хацела б сустрэцца з Вамі... Я хачу расказаць вам. Не адмаўляйце мне, калі ласка, я вас добра ведаю і Вы мяне таксама, толькі, можа, забыліся...

У голасе жанчыны адчувалася хвалява-нне і нейкая трывога.

— Я буду чакаць там, дзе скажаце, толькі прыйдзіце, — гаварыла яна, — толькі абавязкова прыйдзіце, я сама да вас падыйду... Не думайце, тут нічога дрэннага...

... Людзей у парку было няшмат, надвор'е цёплае, сонечнае. Я выйшаў, як і было дамоўлена, да рэчкі на сустрэчу са сваёй знаёмай. Ішоў, углядаўся ў твары людзей і ўсё думаў, хто ж яна такая і нашто я ёй. Яна ж неяк будзе вылучацца сярод іншых?

Яна і сапраўды выдзялялася. Мне насустрач, усміхаючыся, ішла маладая прыгожая дзяўчына і, толькі калі мы прыселі на лаўку, у яе вачах я ўбачыў, хутчэй адчуў нейкую патаемную тугу і смутак.

— Вы мяне, можа, і не памятаеце, — загаварыла яна, — малая я была тады, але мы жылі калісьці ў раёне па-суседстве. Вы і маму з татам ведалі. Памёр ён, і мама памерла. Няма ўжо іх на гэтым свеце, адны мы з сястрычкаю засталіся, зусім адны, але я толькі расказаць хачу, проста толькі расказаць і ўсё, больш нічога. Алёнай мяне завуць, помніце?

Прызнацца, я яе не помніў. Я помніў, як у наш дом прыехаў новы партыйны кіраўнік з жонкай і дзвюма маленькімі дачушкамі. Мікалай Мікалаевіч быў добрым суседам, таварыскім чалавекам, але каб пазнаць у той дзяўчынцы, якая ніколі не расставалася са сваёй скакалкай, цяперашнюю прыгажуню — я не мог.

— Вы ж паехалі тады з раёна, а мы яшчэ доўга там жылі, — гаварыла дзяўчына. — Я там і школу скончыла, потым тут, у Мінску ва універсітэце вучылася, цяпер настаўнічаю ў школе. Нядоўга і мама з татам пражылі ў сталіцы. Раней захварэла мама, потым тата — і ўсё. Кватэру мы размянялі на дзве аднапакаёўкі ды так удачліва, што я ніжэй, а сястрычка паверхам вышэй за мяне, але пад'езд адзін. І месца нядрэннае.

Дык вось, не так даўно сястрычка мая паехала ў дом адпачынку, а ключы ад кватэры пакінула мне, каб я кветкі палівала ды і наогул калі-нікалі наведвалася туды. Пайшла я аднойчы ў сястрыну кватэру і пачала пераглядаць бацькоўскія паперы. Іх многа было, як і ў кожнага з нас цяпер, але чамусьці з усіх папак мяне прывабілі не тыя, што ляжалі наверсе, а тая, што каля самага нізу. Выцягнула я гэтую папку, развязала, пачала чытаць і вачам не паверыла. Гэта было так нечакана, так страшна. "Няпраўда гэта, — хацела закрычаць я, — хлусня ўсё гэта, не можа быць..."

Перачытала яшчэ раз і страціла прытомнасць. Гэта была праўда: горкая, балючая, нейкая недарэчная, але праўда. У дакуменце, замацаваным пячаткамі і подпісамі, значылася, што ніякая я не дачка Мікалая Мікалаевіча і што мама мая — гэта зусім не мая мама, і што ўзялі яны мяне з дзіцячага дома, калі я была зусім маленькая, далі мне сваё прозвішча і нават новае імя. У паперы паведамлялася, што мая родная мама калісьці зраклася мяне, малюткі...

Не ведаю чаму, толькі я і раней, часта ў снах, часам у думках, бачыла вялікі дом. Ён мне здаваўся калі чорным, калі чырвоным, але ніколі не прысніўся светлым. І вось у гэты дом ідзе жанчына і нясе на руках штосьці белае-белае. Яна перадае яго камусьці праз дзверы, а сама знікае, бы растае ў паветры. А то, бывала, прысніцца, што гэтая ж жанчына зноўку ідзе да гэтага ж дома, стаіць, ідзе да дзвярэй, затым знікае. Мне было страшна. Гэта немагчыма, калі адзін і той жа сон некалькі разоў паўтараецца...

Лягчэй, калі другому частку свайго балючага перадасі, на яго перакладзеш. Сяброўкі параілі схадзіць у царкву, са святаром пагаварыць. А як я пайду ў царкву, калі я там ні разу не была і ні ў якага Бога не верыла? Ды і ў сям'і нашай ніхто ніколі пра Бога нават не ўспамінаў. Але пайшла. І ведаеце, іду ў царкву, не ведаю, што і як мне там рабіць, як да бацюшкі падыйсці, але іду лёгка, з радасцю, нібы хтосьці падказвае мне: ідзі, смялей ідзі, тут ты знойдзеш спагаду і спакой сэрца.

Вы спытаеце, чаму лёгка? Можа, таму, што два блізкіх і родных чалавекі, маці і дачка, праз вокладку кніжкі ядналі рукі, не ведаючы пра сваю крэўную роднасць і блізкасць. Нарэшце, чаму мне хацелася хадзіць рыхтавацца да універсітэцкіх заняткаў іменна ў гэту бібліятэку?

Я сустракалася і са сваім родным — па маме — братам. Ён вучыўся разам са мной. Нават у адной групе былі. Мы і дружылі з ім, але толькі дружылі. Зноў чаму? Гэта што,




звычайная выпадковасць, што брат і сястра сядзяць разам за універсітэцкай партай і не ведаюць, хто яны такія? Што маці падносіць дачцэ кніжкі і не ведае, што гэта яе дачка?

А адкуль жа яна ведаць магла? Яна ж мяне пакінула за тысячу кіламетраў ад нашага горада. Хто вёў нас па жыцці і не хацеў разлучыць назаўсёды? А чым можна растлумачыць тое, што кватэра, дзе я цяпер жыву, вокнамі выходзіць на вокны кватэры маёй мамы? Праз вуліцу. І гэта выпадковасць? Ці мала было варыянтаў з разменам у нашым вялікім горадзе? Каб я бачыла маму, а мама — мяне?

Так і дайшла да царквы. Я і цяпер не магу расказаць, як стала на калені, як складвала рукі і малілася Богу, каб суцешыў мяне, каб светлым і добрым было жыццё на тым свеце маім прыёмным бацькам — маме і тату. Такім светлым і добрым, як добрым і светлым зрабілі яны для мяне дзяцінства. А яно сапраўды было не толькі добрым, а — цудоўным.

І да бацюшкі падышла. Расказала яму ўсё, як было, пра што даведалася з той паперкі, спытала, як мне далей жыць: хочацца маму маю сапраўдную ўбачыць, тату майго спытаць, за што яны мяне так, чым я правінілася перад імі, маленькая. У мяне не было крыўды на маму. Я не магла паверыць, што мама мяне не любіла. Недарэчнасць нейкая. Ну, проста аніякай злосці, толькі адно жаданне: знайсці, убачыць і сказаць ёй, што я — яе дачушка, тая, якую яна ў тым чорным ці чырвоным доме пакінула, адну ў доме, які мне многа разоў сніўся...

Бацюшка сказаў, што маму можна знайсці і трэба знайсці, толькі не трэба злавацца на яе, зычыць ёй нядобрае. Яна ўчыніла вялікі грэх, недаравальны грэх і павінна быць моцна пакараная за гэта. Яна, напэўна, ужо пакараная, але да Боскага пакарання не трэба дабаўляць сваё. Хопіць Боскага. "А маму пашукай, — сказаў. — Гэта можна".

І я пайшла шукаць. Адным толькі і жыла — знайсці, паглядзець. Можа, і не сказаць нічога... Праездзіла я тады ўсе свае грошы. Хадзіла па розных установах, дзе толькі не была, і ўсюды, ці, можа, амаль усюды, спатыкала абыякавасць да свайго гора. Мне казалі, што цяпер многа такіх, як я, і ўсе жывуць. "Нашто табе твая мама, забудзь пра яе. Адпомсціць хочаш?"

Бедныя, бедныя людзі. Чаму адпомсціць? Чаму невядомае ім пачуццё ўсёдаравальнасці, спагады, дабрыні... Не магла ж мяне мама кінуць проста так. Значыць, нешта ці нехта прымусіў яе зрабіць такое. А як жа інакш? За што помсціць? Гора ў мяне, пачну помсціць, і гэтае гора павялічыцца, вырасце. Тады не адзін будзе з горам, а двое ці трое...

Але, як кажуць, свет не без добрых людзей. Усё ж угаварыла я аднаго начальніка, паверыў ён мне, што помсціць не буду, праўда, паперку аб гэтым у мяне ўзяў і даў мамін адрас.

Не буду расказваць падрабязнасці маёй першай сустрэчы з мамай. Дарэчы, а чаму першай? Я сустракалася з ёю многа разоў, толькі я не ведала, што яна мая мама, а яна не ведала, што я яе дачушка. Я калі ў бібліятэку хадзіла, то кніжкі чамусьці брала толькі ў яе, маёй мамы, мне радасна і лёгка было, калі кніжкі давала яна. Мама і цяпер працуе ў бібліятэцы, хоць і на пенсіі.

І апошняе. Калі пасля універсітэта нас размеркавалі каго ў якую школу і калі пры сустрэчах сяброў нашага выпуску ў мяне пыталіся, ну, як там у цябе, у школе, я звычайна гаварыла: не ведаю чаму, але мне здаецца, што ў гэтай школе я калісьці ўжо была. Усё мне тут здаецца такім знаёмым і блізкім.

Аказалася, што ў тым класе, дзе я цяпер вучу дзетак, калісьці вучылася мая мама і была цяжарная мною. Значыць, я тут і сапраўды была.

Во колькі пытанняў я вам задала. А на сустрэчу я вас паклікала, каб вы напісалі, толькі без майго прозвішча. Можа, хто прачытае, задумаецца над тым, што нельга маленькіх пакідаць без мамы і таты. Гэта грэх, незамольны грэх, які моцна караецца Богам. Няпраўда гэта, што на вайне не страшна. На вайне, напэўна ж, страшна, бо там смерць. Няпраўда, што нехта ганарыцца тым, што ён з дзіцячага дому. Не ганарыцца ён гэтым. Ён больш саромеецца. Ён усё жыццё адчувае сябе адзінокім і вінаватым. А ў чым можа быць віна маленькага хлопчыка ці дзяўчынкі? У чым іхні грэх?

Калі ж гаварыць пра пакаранне, то мая мама пакараная і, мне здаецца, замнога пакараная. Мой тата (мама дагэтуль не сказала, кім ён быў), сказала толькі, што быў добрым, прыгожым, і яго даўно ўжо на гэтым свеце няма. Што яна, каб выйсці замуж, аддала мяне ў дзіцячы дом. Што яе цяперашні муж ужо многа гадоў зусім сляпы і глухі. Брат мой па маме, Андрэй, горкі п'яніца. Сястра па маме — у турме за зладзейства. Я ў маёй мамы па сутнасці адна і засталася. Адна ейная радасць, якую яна калісьці перадала ў чужыя рукі...

— Вы даруйце, што час ваш заняла, — сказала мне на развітанне Алёна і ўзняла вочы. — Даруйце мне, што плачу. Але вы напішыце. Дзеля гэтага і на сустрэчу паклікала.

Я і напісаў.

**Анатоль ШАСТАКОВІЧ**

## "ПАЛІТЫКА. ПАЭЗІЯ. ПРАВАКАЦЫЯ"

Менавіта пад такім дэвізам адбылася ў Доме літаратара вечарына Славаміра Адамовіча, ці не самай скандальнай (але разам з тым і легендарнай) постаці сучаснае беларускай літаратуры. У адрозненне ад іншых акцый паэта, імпрэза прайшла досыць спакойна, калі, вядома, не ўлічваць правакацыйныя "выхадкі" Анатоля Сыса, які называў Адамовіча агентам КДБ, а потым заявіў, што рабіў гэта спецыяльна дзеля таго, каб праверыць "культурнасць" "рэваншыстаў".

Па самой сваёй канцэпцыі імпрэза не надта рознілася ад традыцыйных "аўтарскіх вечароў", але, тым не меней, было шмат момантаў, нязвычных для падобных мерапрыемстваў. Так, вечарына пачалася з таго, што пад гукі "труб Армагедона" гурта "Сої L" на сцэну, упрыгожаную чорна-чырвона-чорнымі сцягамі, літаральна выпаўз славуты ўжо мастак Алесь Пушкін. Затым адбыўся акт сумеснае творчасці: Адамовіч чытаў свой верш... седзячы верхам на Пушкіне, які ў той час маляваў. У непадрыхтаванага гледача гэтая дзея магла выклікаць усмешку, але нельга не адзначыць яе канцэптуальнае навізны.

З традыцыйнымі і не зусім традыцыйнымі віншаваннямі выступілі сябры С.Адамовіча, вядомыя паэты І.Сідарук, М.Скобла, Ю.Гумянюк, А.Аркуш, Л.Сільнова. На жаль, атмасфера вечара не надта спрыяла ўспрыняццю іхніх вершаў, часам досыць інтымных. Свае абсурдныя, але адначасова і вясёлыя песні праспяваў С.Мінскевіч. Ягоную творчасць, якую можна акрэсліць як беларускі поп-арт, прыязна сустракаюць усе "катэгорыі" гледачоў. Напружаныя і поўныя жарсці вершы чытаў і сам Славамір.

Адметна і тое, што ў кампаніі гэтых досыць масцітых літаратараў апынулася і простая беларуская жанчына Алена Яхоўда, даярка з Мядзельшчыны. З-за ўмяшальніцтва Савецкае ўлады яе лёс склаўся вельмі няпроста. І можа, менавіта таму яна ўпадабала і вывучыла верш С.Адамовіча "Зямля Ханаан". Прамоўлены яе вуснамі са сцэны, гэты твор набыў неразрыўную лучнасць з жыццём і прыродай.

Другая частка вечарыны мусіла паказаць "выкрунтасы творчай моладзі". Пачала яе вакалістка "Новага неба" Кася Камоцкая. Пад акампанемент гітары прагучала яе новая песня. Потым гітару ў рукі ўзяў Лявон Вольскі. Свой верш прачытаў малады паэт Сяржук Патаранскі. Вельмі экспрэсіўным быў выступ Іллі Сіна, імідж і манера чытання якога адпавядалі настроям тэксту. І, нарэшце, на сцэне з'явіўся "першы беларускамоўны панк у свеце" А.Бахарэвіч, які эпатаваў публіку не толькі сваім выглядам. Замест свайго верша паэт прачытаў скрамсаны і перакрыўлены ўрывак з "Зоркі Венеры", а пасля заспяваў "Спадчыну", песню, альтэрнатыўную "песняроўскай". У час яго выступу па сцэне каталіся пляшкі з-пад віна, за імі поўзаў хлопец, пазбаўлены, скажам так, пэўнай часткі вопраткі. Гэта можа падацца безгустоўным, але, на маю думку, кожны мае права самавыражацца так, як хоча.

Нягледзячы на пэўныя "замінкі", якія ўзніклі не па віне арганізатараў, вечарына пакінула прыемныя ўражанні ў публіцы, якой сабралася ці не поўная заля.

**Гальляш СЬВІРЫН**

КУЛЬТУРА

ШТОТЫДНЁВАЯ
ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА
выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар — Алег КАМІНСКІ

Нам.галоўнага рэдактара — Людміла КРУШЫНСКАЯ



Адказны сакратар — Пётра ВАСІЛЕЎСКІ
Мастацкі рэдактар — Наталля ОВАД
Кампутарная вёрстка — Андрэй ВАШКЕВІЧ
Карэктар — Мая КЛІМКОВІЧ

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: 76-94-66



Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6500
Замова 625
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.

Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.